Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару **10 гр.**

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4. | Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА — у будні ад 9—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12—14 г. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: | За год 2 зл. 50 гр.; за паўгоду — 1 зл. 35 гр. за 3 месяцы — 75 грош.; за 1 месяц — 30 грош. |
| --- | --- | --- | --- |

№ 27 (79) — Вільня, 22-га кастрычніка 1935 г. — Год 3-ці.

## Яшчэ аб царкоўных справах

*Рэдакцыя атрымала артыкул ад заслужанага старога сьвяшчэньніка беларуса, вынятки з каторага ў сувязі з яго вельмі цікавым і актуальным зьметам ніжэй зьмяшчаем. РЭДАКЦЫЯ.*

У папярэднім нумары „Роднага Краю“ была зьмешчана вельмі цікавая перадавіца аб нашай царкоўнай іерархіі, якая ясна паказала ўсяму Народу і нам сьвяшчэньнікам, дзе крыецца галоўная прычына аслабленьня веры сярод нашых прыхаджанаў, ад чаго пашыраецца **бязбожжа** і рознае **сэктанства**, ды чаму асабліва сярод праваслаўных беларусаў знаходзіць падатны грунт **камунізм.**

Выказаныя ў стацьці „Духавенства і Царква—Народ“ думкі адносяцца аднолькава да ўсіх нашых 3-х епархіяў: Віленскай, Пінскай і Горадзенскай. Аб дзьвёх апошніх гаварыць ня буду, бо тамтэйшага жыцьця і тамтэйшых парадкаў царкоўнага „управленія“ ня ведаю. Ад 15 гадоў працую ў Віленскай епархіі. За гэты час сам пабываў на шмат якіх прыходах, а знаю амаль усіх сьвяшчэньнікаў ды ўсе прыходы. Ня ведаю, ці ў якой іншай епархіі спатыкаюцца такія рэчы, лепш кажучы, недарэчнасьці, як у нас, але мы ўжо да гэтага прыvarious.

Зразумела, што ўсе мы бясьсільны зьмяніць існуючы парадак датуль, пакуль Той, каму мы прысягалі падпарадкавацца „беспрекословно“, г. зн. наш архіепіскап Хвядос займае Віленскую архіпастырскую кафэдру. Ня буду, што праўда, вініць у гэтым і Яго, бо ўважаю, што Ён дасяг ужо такога веку, калі за свае паступкі неадказны нават і перад Богам.

Ці дасягне кара заплечнікаў нашага архіпастыра за тое, што яны робяць,—таксама сказаць трудна ды і ня ў гэтым справа.

Розным Дзічкоўскім, не аб веру ходзіць, а аб сваю ўласную скуру. Яны іншымі быць ня могуць, бо-ж так ужо яны ўзгадованы. Але песьня іх, здаецца, ужо сьпяяна — яшчэ дзень, яшчэ два і... аб іх забудзем.

Зразумела, што Царкву складаюць ня толькі „сьвятыя айцы“, як іх называе „Родны Край“, але і вернікі — народ, а народ у нас выключна беларускі. І нічога дзіўнага, што, бачучы такія непарадкі, лепшыя прадстаўнікі белар. грамадзянства забіраюць голас у дарагой для іх народу справе — справе маці праваслаўнае царквы.

У шмат каго з нас, зьвязаных „клятваю“ паслушэнства сваёй іерархіі, паўстае жах ад кіненай аўтарам успомненага артыкулу пагрозы — **выйсьці з пад парадкаваньня** такой іерархіі. Аднак аб'ектыўна разважаючы, ды памятаючы прыклады з мінуўшчыны нашае праваслаўнае Царквы на Беларусі, прыходзіцца сьцьвердзіць, што не заўсёды, нажаль, нашая вышэйшая іерархія знаходзілася на належным роўні. Наадварот, можна прывесьці прыклады ганебнага хістаньня, а на'т і адступніцтва вышэйшых іерархаў ад веры сваіх бацькоў, ад веры свайго народу.

Ці й у гэткіх выпадках абавязвае вернікаў абсолютнае „беспрекословное“ паслушэнства? Гісторыя Царквы нас вучыць, што не, бо-ж кожны чалавек грэшны, а бязгрэшны толькі адзін Хрыстос, Сын жывога Бога, які якраз і прыйшоў грэшнікаў спасьці. Бязгрэшна такім чынам толькі Царква Хрыстова, як такая. Гаворыцца, што голас народу — голас Божы. І сапраўды, народ не атрымлівае ў гэтым прыпадку „благ міра сего“ і дзеля гэтага ён найбольш чулы на небясьпеку і найбольш аб'ектыўны ў сваім судзе.

А народ даўно дабіваецца ад нас, сьвяшчэньнікаў, прыйсьці навучаць яго ў імя Айца і Сына і Сьвятога Духа ў мове для яго зразумелай—роднай, матчынай — мове беларускай.

Духавенства нашае Віленскае епархіі (на чале з архіепіскапам Хвядосам) ў большасьці расейскае па крыві ды чарнасоценнае па духу, якой усё яшчэ сьняцца „благія“ сны аб „единой неделимой“ Расеі. І нічога дзіўнага, што гэнае духавенства так адносіцца да Беларусаў: яно ўважае сучасны стан рэчаў дачасным і дзеля гэтага хутчэй згодзіцца на польскю чымсь на беларускую мову. Ясна, што гэнае духавенства ненавідзіць і польскую мову такжа, як і беларускую, але думае, што „польская мова“ дасьць яму хоць асабістыя выгады і карысьці, як мова дзяржаўная.

Архіепіскап Хвядос, прыкладам, на днях выдаў загад, каб кансісторыя і духавенства **паступова(?)** („stopniowo“) пераходзілі на польскую мову.

Што гэта значыць і для чаго так зроблена? Бязумоўна, толькі і выключна, каб дагадзіць, так сказаць, начальству.

Няўжо-ж яны думаюць гэтым забарыкадаваць сябе ад штораз выразьнейшых дамаганьняў беларусаў—вернікаў?

Калі так, то вельмі і вельмі мыляюцца. Нам, беларусам зусім ня страшна польская мова; мы яе знаем і на ёй зносімся з дзяржаўнымі ўладамі і дзяржаўнымі ўстановамі; гэты парадак мы прынялі ад самага паўстаньня Польшчы.

Польскай мове мы вось ужо 17 гадоў вучым сваіх дзяцей і яна для нас зусім не праціўная, наадварот, — уважаем польскую мову прыгожай і і мілагучнай, якую трэба было-б пазнаць і тады, калі-б яна ня была мовай дзяржаўнай, а толькі мовай братняга нам народу. Дзівімся, што нашая іерархія толькі пасьля 18 гадоў існаваньня польскае дзяржаўнасьці прыйшла да гэткага перакананьня, пашыраючы дагэтуль сярод беларускага народу толькі і выключна мову **расейскую**, інакш кажучы, **русыфікуючы беларусаў.**

А цяпер? Мусі будзе так, як зазначае „Родны Край“: на вынас — польская, а для ўнутранага спажываньня — „по старому — общепонятный материнскі язык“.

Але беларусаў гэтым не запужаеш.

Маючы, як зазначыў, поўную пашану да польскае мовы і польскае культуры, беларусы адначасна не перастануць быць беларусамі, ня выракуцца сваёй роднай мовы.

І таму не на вецер кінена ў папярэднім нумары „Роднага Краю“ думка, аб стварэньні беларускай нацыянальнай царквы, бо калі мы, духоўныя, ня пойдзем да беларусаў з навукай Хрыста ў беларускай мове,—ці то ў школе, ці ў царкве, то насьпее час, калі беларускі народ створыць сваю нацыянальную царкву, а мы, сьвяшчэньнікі-беларусы пойдзем разам з ім.

Скажу больш. Па маёй думцы ня толькі навучаньне рэлігіі ў школе і ў царкве магчыма і павінна адбывацца пабеларуску, але і царкоўнае багаслужэньне паступова можа пераходзіць на беларускую мову, што зусім не пярэчыць кананічным правілам праваслаўнае царквы. Варта толькі ўспомніць аб даваеннай эстонскай праваслаўнай царкве, у якой Служба Божая адпраўлялася выключна ў эстонскай мове. Такі парадак можа быць толькі карысным, бо тады беларусы-вернікі будуць добра разумець царкоўную службу, а гэта бязумоўна выкліча падняцьце рэлігійнасьці сярод нашага народу.

Пара скончыць з такім ненармальным станам рэчаў, калі духоўнікі хочуць прапаведваць Слова Божа'е вернікам ў чужой для іх мове. Урэшце гэта ня згодна і з воляю Госпада Ісуса Хрыста, каторы хіба-ж, пасылаючы сваіх апосталаў, прыкл., да Рымлянаў, не казаў ім прапаведваць пажыдоўску.

Каб скончыць з існуючым непарадкам у нашай царкве, трэба зрабіць рашучую і поўную опэрацыю.

Годзі хістаньня, годзі кампрамісаў. Павінна быць праведзена поўная беларусізацыя царквы ад верху да нізу. Тады толькі мы зможам спыніць той маральны расклад, які трывае ў нашай царкве. Скарыстае з гэтага і Царква і Польская Дзяржава, бо-ж хіба лепш для Дзяржавы мець пэўных і актыўных грамадзян-беларусаў, чымсь quasi палякаў, якія хаваюць за пазухай камень.

*Сьвяшчэньнік-беларус.*

## Барацьба за ваду ў паўдзённай Абісініі.

У той час, як з паўночна-ўсходняга абісінскага фронту газэты падаюць даволі шмат вестак пра афрыканскую вайну, апісваючы, як італьянцы занялі места Адую, то ізноў, як абісінцы зрабілі напад на гэтае места ўночы ды выразалі ў пень каля 2000 чалавек італьянскага гарнізону. з паўдзённа-ўсходняга абісінскага фронту вайны весткі вельмі скупыя. Сама пустынная мясцовасьць гэтага фронту не дае магчымасьці разьвіцца тут болей рашучым ваенным апэрацыям.

„Ilustrowany Kurjer Codzienny“ за 14. X. зьмясьціў вельмі цікавы артыкул вядомага ангельскага ваеннага корэспондэнта сэра Пэрсіфаля Філіпса, датованую 11 кастрычніка ў мясцовасьці Дірэдаўа.

Паміж іншым, сэр Пэрсіфаль Філіпс піша:

— Італьянскі паход у паўдзённай Абісініі зьяўляецца дасюль хутчэй вайною за ваду, ніж за самую тэрыторыю. Войска генэрала Грацыяні, што складаецца, як з эўрапэйцаў, так і з колёніяльных фармацыяў, пасоўваецца праз тэрыторыю правінцыі Огадэн вельмі павольна і мэтодычна, пераходзячы... ад крыніцы да крыніцы. Дасюль ня было сутычкі, якую можна было-б назваць бітвою, ня гледзячы на сэнсацыйныя весткі пра вялікія перамогі і паражэньні. Весткі гэткія, падаваныя з вуснаў у вусны, адбываюць сваю падарожу праз горы і даліны Гаррару і даходзяць да мэты пераўвялічаныя і перайначаныя.

Дзе толькі дайшло да беспасярэдняе сутычкі войскаў, якія ваююць, там Абісінцы, маючы цэнную помач вады, выказалі сільнае спраціўленьне. Калі іх змусілі адступіць, дык яны стараліся абапёрціся аб чарговую крыніцу. Зразумела, што Італьянцы маюць тую вышэйшасьць над Абісінцамі, што могуць пасылаць сваім палком запас вады, а таксама і стравы, як цяжкімі самаходамі, так і самалётамі. Сомалійскія дэзэртыры, якія дасталіся за абісінскі фронт, цьвердзяць, што італьянскае войска ня вельмі церпіць ад недастачы ежы або вады. Не адбываюцца там доўгія маршы і кожны шаг, які вядзе ў горы, — падробна абдуманы. Дык дзеля гэтага з абедзьвюх старон дайшло параўнаўча да вельмі невялікага ліку сутычак. Першыя праўдзівыя пробы стойкасьці Абісінцаў проці атакаў, ведзеных сучаснаю зброяй, адбудуцца толькі тады, як Абісінцы будуць бараніць у горах доступ да Гаррару. Камандзер абісінскае арміі падчырквае, што ён ані ня мае замеру выклікаць вялікі бой у пустыні.

Гэтак званы італьянскі фронт — вельмі туманны і трудна яго азначыць... Павольны наступ італьянскае пяхоты забясьпечваюць значныя лікам танкі, а таксама і самалёты... Апісаньні налётаў італьянскіх лятуноў даходзяць да заселеных узгор'яў і выклікаюць жах на базарах Гаррару, дзе іх лічаць за надчалавечыя штукі белых чарадзеяў.

Вельмі мала хто з Абісінцаў сочыць за італьянскімі апэрацыямі інтэлігентным спосабам. Яны вераць, што галоўная іхная атака скіруецца ў кірунку гораў поўначы, якія знаходзяцца пад заслонай брытанскага краю Сомалі з Джыджыгаю, як першым этапам.

Італьянцы добра ведаюць, што набоі зброі, паходзячай з Японіі, прыбылі да Зэіля, скуль на вазох перавозяць іх цераз Гаргеіза ў Джыджыгу, дзе ізноў-жа іх шыбкім тэмпам раздаюць войску.

Шмат якія аддзелы абісінскага войска азброены дасюль толькі старымі стрэльбамі ды зброяю сумліўнае вартасьці. Вакол Джыджыгі адбываюцца вялізныя концэнтрацыі мясцовых плямёнаў і рэгулярнае арміі. Убогая мясьціна Джыджыга, абкружаная вялікімі пустыннымі плашчынямі, зусім эвакуована з цывільных жыхароў.

Места Гаррар знаходзіцца цяпер у стане дэморалізацыі, выкліканай страхам перад аэраплянными атакамі. Палова 20-тысячнага насяленьня, у тым ліку найчасьцей жанчыны і дзеці, эвакуованы на ваколічныя горы, або ў глыб краю. Мясцовыя таргі перанесены за места. Тысячы людзей прабываюць там дзень і ноч пад голым небам, а на колькі гадзін у дзень там паадчыняны розныя склады.

З усіх шпіталяў павяваюць сьцягі Чырвонага Крыжа. Мясцовыя жыхары высока цэняць гэты знак Чырвонага Крыжа, але вельмі слаба ўяўляюць сабе, што ён азначае. Некаторыя з Абісінцаў лічаць яго свайго роду амулетам проці самалётаў. Места Гаррар ня мае ніякіх харчовых запасаў, бо можа іх атрымліваць з агародаў, паложаных навокал за мурамі места. Абісінскі ўрад зрэквізаваў усе вазы, якія толькі былі ў горадзе. Нэрвы жыхароў гэтага гораду настолькі напружаныя і пануе гэткі ваенны псыхоз, што на гук стрэлу звычайнае стрэльбы вочы ўсіх зьвяртаюцца да неба, а выпадковыя стрэлы выклікаюць паніку на вуліцах. Дваццацьмільная дарога з Гаррару да Дірэдаўа закрыта агароджаю, якая замыкаецца, як толькі зьмеркне. Нікому без спэцыяльнага пазваленьня нельга перайсьці гэтае агароджы. Тымчасам гарадзкія брамы, замыканыя раней у тую самую пару, што і ў сярэднявеччы, цяпер адчыненыя і заўсёды абстаўленыя жаўнерамі. Калі дарога да Дірэдаўа адкрыта, дык відаць бясконцыя паходы ўцекачоў, шмат хто з якіх паходзіць з брытанскага Сомалі ды ўцякае разам з сваімі завуаляванымі жанчынамі і дзяцьмі. Сходзячы з гораў, ідуць яны да чугункі разам з усёю маемасьцю, везенаю муламі. Ня гледзячы на паніку ў месьце, эўрапэйскія купцы заявілі, што думаюць астацца ў Гаррары аж датуль, пакуль места не пачнуць бамбардаваць італьянцы.

Поўная недастача праўдзівых вестак пра поступы італьянскіх войскаў і недастача афіцыяльных паведамленьняў ураду прычыняецца толькі да агульнай нэрвовасьці насяленьня. Няма ніякага заўсёднага контакту з высока нявыразным фронтам пад Адуяй. Адзіным контактам з рэштаю Абісініі ёсьць радыястанцыя, каторая передае ўсялякія ведамасьці ў Адзіс-Абэбу, хоць і з вялікім спазьненьнем з прычыны скомплікаванае цэнзуры.

Дасюль хіба што ніводная вайна ў часы цывілізацыі ня была ведзена пры гэткай адсутнасьці ўсялякіх тэхнічных устройстваў і гэтак далёка ад усялякай камунікацыі з усім сьветам...

## Савецкая хірургія.

Маскоўская „Правда“ піша:

Менскі камсамолец Анатоль Клімовіч зьвярнуўся ў хірургічную клініку:

— Мазоль на пальцы правай нагі. Непакоіць.

Лекар папрыяцельску адказаў:

— Зайдзі, братка, заўтра, выражам.

Назаўтра Клімовіч прыйшоў.

Яго папрыяцельску пасадзілі. Нагу ўзялі пад мясцовы наркоз і... адрэзалі ўвесь палец. І пры гэтым ня той, на якім мазоль, а іншы, суседні, зусім здаровы:

— „Памыліліся... не памыляецца той, хто нічога ня робіць“.

**Пашырайце нашу газэту.**

## Ангельская Імпэрыя

У сувязі з італьянска-абісінскай вайной Ліга Нацыяў выказалася за санкцыі, скіраваныя проціў Італіі, якую Ліга прызнала нападаючай староной. Гэная пастанова Лігі — адбылася галоўным чынам дзякуючы уплывам і націску Англіі, інтарэсам якой пагражае жаданьне Італіі пашырыць свае афрыканскія калёніі.

Англія зьяўляецца найбольшаю дзяржаваю на сьвеце, да якой належаць землі ва ўсіх 5-ёх частках сьвету з агульным абшарам 34 мільёны 240 тысячаў 349 квадрадных кілёметраў з насельніцтвам да 500 мільёнаў чалавек, з чаго *ў Эўропе* — 324 тысячы 641 кв. кілёмэтраў з насельніцтвам каля 50-ёх мільёнаў чалавек, *у Азіі* —5 мільёнаў 103 тысячы 306 кв. кілёметраў з насельніцтвам каля 350 мільёнаў чалавек, *у Афрыцы* — 10 мільёнаў 26 тысьчаў 824 кв. кілёметраў з насельнідтвам звыш 60 ёх мільёнаў чалавек, *у Амэрыцы* — 10 мільёнаў 240 тысячаў 813 квадр. кілёмэтраў з насельніцтвам 12 мільёнаў чалавек і ў *Аўстраліі і Акеаніі* 8 мільёнаў 546 тысячаў 705 кв. кілёмэтраў з насельніцтвам каля 10 мільёнаў чалавек.

Сталіцай усей Ангельскай Імпэрыі зьяўляецца Лёндан, які налічвае, разам з прадмесьцямі, 8 з паловай мільёнаў жыхароў.

Эўрапэйскія землі Англіі складаюцца з Каралеўства Вялікабрыніі (Англія, Шотляндыя і паўночная Ірляндыя), з Ірляндыі Гібральтару, Мальты і Кіпру.

*Каралеўства Вялікабрытанія* мае абшар 244 тысячы 146 кв. кілёметраў з насельніцтвам 48 мільёнаў чалавек. Агульная даўжыня чыгунак 32 тысячы, 824 кілём.

Гандлёвы флёт складаецца з 8 з паловай тысячаў караблёў у 22 мільёнах тоннаў.

Бюджэт Каралеўства раўняецца 1 мільярду 654 мільёнам, 475 тысячам 541 фунтам штэрлінгаў (1 фунт штэрлінгаў роўны 26 польскім злотым).

*Ірляндыя* — (ад 1922 г. свабодная дзяржава) кіруецца ангельскім генэрал-губэрнатарам. Абшар мае 68 тысячаў 873 кв. кілём. з насельніцтвам 3 з паловай мільёнаў чалавек, чыгунак—3.342 кілём. Гандлёвы флёт агульна імперскі.

Сталіца Ірляндыі — Дублін (450 тыс. жыхароў).

*Гібральтар* зьяўляецца вельмі важным ваенным портам на Сяродземным моры (скала вышынёй

# Белая лаўка.

А здаецца, што і ня вельмі даўно было гэта, калі нас на расейцаў перарабляць стараліся.

Сяло Каўпакі спачатку мела толькі цэркву, а пры ёй папа ды дзяка.

А калі апошні цар каранаваўся, дык задумала начальства і школу паставіць у Каўпакох. Звычайную гэткую школку, царкоўна-прыхадзкую, каб „рускі дух“ загаяць у галовы беларускіх дзетак.

Школу збудавалі, пабялілі ў сярэдзіне, а зьверху цёмна-чырвонай фарбай памалявалі. Пышны малебен некалькі папоў разам служыла, калі сам архірэй высьвячаць гэтую школу прыехаў. Прыбыў і губэрнатар — нязвычайнае таўшчыні чалавек.

Навіна, дык народу сабралася нямала — ня ўсе маглі ў будынак школьны ўлезьці.

Адна бабулька ўзыйшла на ганак, аж—тут дзьверы загарадзіў ёй таўшчэзны пан.

— Пусьці, панок, дай паглядзець на архірэя, -- просіць бабулька.

А „панок“ толькі бокам павярнуўся, усьмяхаецца. Бабулька то з таго боку зайдзе, то з другога— ніяк не пралезеш міма панскае фігуры.

Падляцеў да бабулькі мясцовы паліцэйскі ураднік, схапіў за плечы і сьпіхнуў з ганку на вуліцу, строга спытаўшыся:

— Ты чаго, старая зязюля, начальства трывожыш?

— А мне нашто вашае начальства? — апраўдвалася бабулька,— мне толькі, каб архірэя ўбачыць.

— Дык ты што? — абсаджвае яе ураднік, — ня бачыш, што ў дзьвярох сам гаспадзін губэрнатар?!

— *Гу-бар натар?!*—зьдзівілася бабуля, — але-ж і губарнатар?... ў ім добрую кадушку капусты насаліць можна было-б!

Ураднік сьвіснуў бізуном над галавой бабулькі і далёка адагнаў яе ад школы.

Больш ніякіх непарадкаў пры высьвячаньні школы ня здарылася. Яе высьвяцілі, прыбілі вялікі шыльд, расьпісаны кірыліцай, каб кожны граматны дзядзька вычытаць мог, што гэта: Каўпацкая царкоўна-прыхадзкая школа.

Ніжэй на шыльдзе, крыху меншымі літарамі, было выпісана, што школа гэта збудована ў такім вось годзе ў памяць... *священнаго короновапія их императорских величеств.*

З восені і „навука“ ў школе пачалася.

Школаю загадваў поп і вучыў у ёй Закону Божага. Іншыя прадметы выкладаў прысланы ў Каўпакі настаўнік.

У даўжэзнай клясе ў адзін рад былі пастаўлены школьныя чорныя лаўкі так, што вучні сядзелі вачыма да двох вялікіх вокнаў, а ўсе іншыя вокны чамусьці знаходзіліся з правага боку, з захаду.

У канцы клясы, зусім збоку, у кутку каля дзьвярэй, пастаўлена была нефарбованая белая лаўка. Яна мела нейкае спэцыяльнае, можна сказаць, назначэньне—тут, як у люстры, адбівалася ўсё тое, чаго хоча ад бедных дзяцей расейская царкоўная школа.

Вучні дзяліліся ў клясе на аддзелы: старшы, сярэдні і малодшы. Белая лаўка не ўваходзіла, праўду сказаць, ні ў які аддзел і была гэткаю сабе „камчаткаю“ для . . . безнадзейных, „тупых“ вучняў.

А ці запраўды былі там вучні безнадзейныя і тупыя, ці сама школа, сваім спосабам навучаньня, тупіла іх, праз цэлыя доўгія гады трымаючы на белай лаўцы, — гэта трудна было згадаць бедным бацьком тых дзетак, якіх у школе парасейску ды паславянску чытаць вучылі.

Чорнавокі, моцна збудованы, Алеська Біч высядзеў на белай лаўцы аж дзевяць гадоў і толькі ўжо зусім дзяцюком, маючы семнаццаць гадоў, разьвітаўся ён і з белаю лаўкаю і наагул з Каўпацкаю царкоўнаю школаю.

Малады мясцовы поп, прыйшоўшы ў школу на Закон Божы, адразу прызнаў Алеську *тупым* і ні за што не пазваляў перавясьці яго ў малодшы аддзел, на чорныя лаўкі.

Уся тупасьць Алеські Віча была ў тым, што ён ніяк ня мог навучыцца малітвы Духу Сьвятому.

А поп кожны раз пачынаў сваю лекцыю проста:

— *Александр Біч!* *А ну*, скажы нам малітву Духу Сьвятому.

Алеська пачынаў:

— Цару нябеснаму...

— *Царю не-бес-ный*, — папраўляў поп, моцна націскаючы на *„рю“* і на *„ный“*.

І колькі ні змушаў ён Алеську паўтараць малітву, у таго нязьменна выходзіла:

— Цару нябеснаму...

Чужым нейкім здаваўся Алесю царкоўна-славянскі сказ малітвы Духу Сьвятому дый годзі. Ён ужо навучыўся чытаць і сяк-так пісаць парасейску, задачкі напамяць рашаў нават тыя, што задаваў настаўнік другому аддзелу, а вось малітвы навучыцца ніяк ня мог і праз гэта мусіў цэлы свой „школьны век“ сядзець на белай лаўцы.

Шмат здарэньняў розных было ў школе, пакуль „вучыўся“ ў ёй Алесь Біч.

Ен якнайлепш мог-бы расказаць пра візыты павятовага *наблюдателя*, пра муштру царкоўных сьпеваў, тлумачэньне эвангельля з славянскае на расейскую мову, ведаў, што азначае паславянску *„иже“* або *„паки“*, а малітву Сьвятому Духу нязьменна пачынаў словамі:

— Цару нябеснаму...

